**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 39 (807) 24 верасня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



**Фестываль "Журавіны і жураўлі Мёрскага краю".**
**Бясплатная экскурсія на балота да жураўлёў. Назіранне ў трубу з 30-кратным павелічэннем.**
*Фота З. Лупача.*













# Віцебскія ўлады гатовыя расстацца з акцыямі птушкафабрыкі, камбінатаў і яшчэ некалькіх прадпрыемстваў

**Сёлета ў пералік на прыватызацыю ўключаныя акцыі 10 прадпрыемстваў, якія належаць вобласці.**

Блізкі да кантрольнага пакет акцый (50% мінус 1 акцыя) атрымаюць інвестары, якія зацікаўляцца **Глыбоцкай птушкафабрыкай**, Віцебскім міжраённым рамонтным прадпрыемствам, Чашніцкай ПМК-26.

У «Віцебскага гаспгандлю», «Вітрэмбыта», «Віцебскоблаграпрамтранса», Віцебскага кардонна-паліграфічнага камбіната колькасць прадаваных акцый складае ад 20% да 42,2% статутнага фонду. Аблвыканкам можа павялічыць іх колькасць — калі пачуе пераканаўчыя аргументы ад інвестара.

Для прыватызацыі па конкурсе зацверджаны пакет акцый у 54,25% статутнага фонду ААТ «Оршасырзавод». Патэнцыйны пакупнік павінен будзе на працягу 2 гадоў укласці ў вытворчасць 5 млн. даляраў.

Пералік на прыватызацыю камунальных актываў сёлета пашырыўся за кошт уключэння ў яго акцый **Глыбоцкага** і Лепельскага **малочна-кансервавых камбінатаў.**

Пакеты каштоўных папер гэтых прадпрыемстваў складаюць 50% статутных фондаў мінус 1 акцыя. Балансавы кошт актываў **Глыбоцкага** прадпрыемства перавышае 114,5 млрд. рублёў, лепельскага камбіната — амаль 132 млрд.

Калі інвестары выкажуць цікавыя прапановы, падмацаваныя бізнес-планамі, колькасць прадаваных акцый можа быць павялічаная. Акрамя таго, аблвыканкам і органы кіравання малочна-кансервавых камбінатаў гатовыя разгледзець ідэі па стварэнні сумесных прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі, паведамілі ў фондзе «Віцебскоблмаёмасць».

*Сяргей Антонаў.*











ISSN 2077-8023



### Докшыцкі раён

## У чаканні наваселля

■ Станіслаў Раманчук.

**З-за істотнага зніжэння фінансавання аб'ёмаў будаўніцтва шмат дзе гэта галіна ў рэгіёнах апынулася на мяжы выжывання.**

У адрозненне ад іншых, Докшыцкі раён мае даволі моцную бударганізацыю, ПМК №52 і сёлета ў гарпасёлку Бягомль да канца года павінен здаць у эксплуатацыю другую па ліку шматпавярхоўку. У мінулым годзе будаўнікі ў буйным мястэчку пабудавалі на долевым удзеле першы 12-кватэрны жылы дом. Потым, не чакаючы паступлення сродкаў, яны заклалі падмурак яшчэ аднаго дома ўжо на 40 кватэр. Патрэбнасць у новым жыллі ў гарпасёлку значная, у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў знаходзіцца 145 чалавек. Сюды імкнуцца патрапіць жыць маладыя сем'і, бо ёсць праца на заводзе "Ветразь", у іншых арганізацыях, патрэбная інфраструктура і да сталіцы, абласнога цэнтра зусім блізка. У маі, калі адкрылі нарэшце фінансаванне, работа на аб'екце закіпела. Працуючы ў тры змены, мясцовыя будаўнікі кожны месяц узводзілі па паверху, да канца верасня павінны былі і накрыць дах. На ўзвядзенні шматпавярхоўкі занята каля паўсотні муляраў, бетоншчыкаў, сантэхнікаў, электрыкаў і рабочых іншых спецыяльнасцей. Работы вядуцца хуткімі тэмпамі і пры належнай якасці, бо бударганізацыя мае свой раствора-бетонны вузел. З ранейшага сталярнага цэха ПМК №52 паўстала сучасная вытворчасць і ўласных вокан ПВХ, таксама алюмініевых лоджый. У гэтым годзе аб'ектаў у мясцовых будаўнікоў хапае: яны яшчэ ўзводзяць школу, ФАК ва Ушачах, вядуць рэканструкцыю зубапратэзнай паліклінікі і двух аддзяленняў райбальніцы.

### Полацкі раён

## І ў лесе шмат прыпісак

■ Чэслаў Якубовіч.

**Да нядаўняга часу лічылася, што айчынная сельская гаспадарка з'яўляецца яўным лідарам у краіне па розных махінацыях і скажэнню сапраўднага становішча спраў.**

Аднак шматлікія парушэнні выяўляюцца зараз паўсюдна, што і пацвердзіла планавая праверка дзейнасці Дрэтунскага лясгаса, што ў Полацкім раёне. Там, напэўна, не чакалі, што спецыялісты абласнога Камітэта дзяржкантролю змогуць дэталёва разабрацца, што рэальна робіцца на бяскрайніх лясных прасторах. Аднак яны вывілі, што ў гэтым лясгасе былі прыпіскі аб'ёмаў вырубак і ачысткі лесу, пры правядзенні іншых прыродаахоўных мерапрыемстваў. Пры пільным аглядзе квартальнай просекі выявілася, што 45 дрэў розных парод лесарубы ссеклі незаконна. Работы шмат дзе вяліся неахайна, заставаліся недарубы і дрэнна вялася ачыстка масіваў, не так, як патрабуюць тэхналагічныя працэсы. У выніку прыпісак незаконна спісваўся бензін і атрымоўвалася незаробленая грашовая выручка. Акрамя гэтага, праверка выявіла звыш 80 куб. м. у няўлічанай драўніны, нямэтавае выкарыстанне бюджэтных сродкаў у суме звыш 32млн. рублёў і іншыя парушэнні. Пры гэтым выявіліся затрымкі тэрмінаў выплаты зарплаты работнікам. Лясгасу прыйшлося вярнуць незаконна атрыманыя і патрачаныя сродкі. Па выніках праверкі адразу 19 яго працаўнікоў і спецыялістаў былі аштрафаваныя, а яшчэ 12 чалавек прыцягнулі і да дысцыплінарнай адказнасці, ім наклалі вымовы. Дарэчы, сёлета на Полаччыне выявілі розныя парушэнні і ў бударганізацыях, на камбінаце хлебапрадуктаў, вінзаводзе і, нават, мадэрнізацыю "Нафтана" хацелі правесці па завышаных цэнах.

### Пастаўскі раён

## Зноў на вяршыні

■ Кастусь Александровіч

**Ужо некалькі год запар адным з лепшых цэнтраў развіцця дзіцячага і юнацкага футбола ў Беларусі застаюцца Паставы.**

Гэта тэндэнцыя не спынілася нават, калі летась восенню з-за "прасеўшага" расійскага рынку збыту закрылася футбольная акадэмія пры мясцовым мебельным цэнтры. Аднак, працу з дзецьмі розных узростаў паспяхова прадаўжаюць тры трэнеры. У пачатку восені сёлета каманда пастаўскіх хлопчыкаў каманды "ПМЦ" другі год запар зноў выдатна выступіла ў фінальным рэспубліканскім турніры "Скураны мяч" на прызы Прэзідэнцкага спартыўнага клуба. Летась юныя пастаўчане ў сярэдняй узроставай групе ў Жлобіне сталі чэмпіёнамі, а сёлета яны зноў выйгралі вобласць, патрапілі пасля жараб'ёўкі ў вельмі моцную падгрупу. Выхаванцы вопытнага трэнера Васіля Грантоўскага паслядоўна разграмілі мінчан, гродзенцаў, а затым з лікам 1:0 - леташняга сярэбранага прызёра, магілёўскае "Тарпеда". Былі блізкія да перамогі хлопчыкі з Пастаў і ў рашаючым матчы з мацнейшай камандай Брэстчыны, не рэалізавалі некалькі зручных момантаў для ўзяцця варот. У выніку лёс паядынку вырашыўся ў серыі пенальці, дзе больш дакладна іх прабіў супернік, каманда "Юнацтва" (Драгічын), якая і заваявала залатыя медалі. Аднак і другое месца ў краіне – паказчык стабільнасці і майстэрства, бо пастаўчане сталі яшчэ трэцімі сярод васьмі каманд у спаборніцтвах па тэхніцы валодання мячом і агульнай фізічнай падрыхтоўцы. Прыз лепшага іграка турніра прывёз дамоў пастаўскі паўабаронца Кірыл Каралёнак. Дарэчы, яшчэ адна каманда старэйшых падлеткаў "ПМЦ" сёлета была другой у адпаведным абласным турніры.

### Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 24.09.15 | | | | Пятніца 25.09.15 | | | | Субота 26.09.15 | | | | Нядзеля 27.09.15 | | | | Пан. 28.09. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +14 | +15 | +22 | +17 | +16 | +17 | +20 | +17 | +16 | +15 | +21 | +16 | +13 | +11 | +14 | +10 | +10 | +10 | +12 |
| Ціск | 749 | 749 | 750 | 749 | 749 | 749 | 749 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 747 | 750 | 752 | 753 | 754 | 755 | 755 |
| Вецер м/сек | 2 | 3 | 2 | 2 | 3 | 2 | 3 | 2 | 1 | 2 | 1 | 1 | 7 | 5 | 7 | 3 | 5 | 4 | 6 |
| | Ю-В | Ю-В | Ю-В | Ю-В | С | С-В | В | С-В | Ю | Ю-В | В | С | С | С | С | С-З | С | С-З | С-З |
| Вільготнасць | 100 | 100 | 79 | 98 | 100 | 100 | 87 | 99 | 99 | 96 | 71 | 95 | 99 | 95 | 61 | 88 | 91 | 88 | 68 |

# Аб самым надзённым

## НЕ АД ДОБРАГА ЖЫЦЦЯ ЗНЯЛІ Ў БЕЛАРУСІ АБМЕЖАВАННІ НА ПРОДАЖ ГАРЭЛКІ, СЛАБААЛКАГОЛЬНЫХ НАПІТКАЎ І ПІВА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Аднак, зараз перад выбарамі лозунг "чаркі і шкваркі" зноў правіць баль, пі – не хачу. З таго моманту, напрыклад, як у 7 гадзін раніцы адкрываецца магазін, кожнаму абавязаны прадаваць жаданую бутэльку без абмежаванняў да самага закрыцця крамы, хоць у 24 гадзіны і нават пазней, бо да незадавальнення міліцыі могуць быць і кругласутачныя гандлёвыя кропкі.**

Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі застаюцца ўжо лічаныя тыдні, аднак, сёлета нават пенсіянеры, самая актыўная частка электарату, сталі ўсведамляць, што нешта не тое ў краіне адбываецца. Чамусьці і размоў аб правядзенні новага Усебеларускага народнага сходу, як раней, зусім не вядося. Наадварот, нават чыноўнікі высокіх рангаў сталі гаварыць аб узнікшых эканамічных цяжкасцях, праўда, на знешніх замежных рынках, ад чаго, маўляў, і паўсталі нашы праблемы. Толькі ў пачатку сёлетняй восені ўсё ж зрабілі сціплы перадвыбарны падарунак пажылым і правялі ім пераразлік працоўных пенсій.

Пенсіянеры чакалі такога кроку доўга, бо апошні раз ім павышалі пенсіі летась у лістападзе. Дарэчы, у мінулым 2014 годзе такія павышэнні былі тры разы і індэксацыя памераў пенсій па ўзросце складала 5%, потым нават 7 % і яшчэ 5,5%. Сёлета, нагадаем, і так сціплыя пенсіі беларускіх пенсіянераў атрымалі толькі адну дабаўку ў сярэднім на 5% і ніяк не кампенсавалі бегучы рост цэн. Для параўнання, у папярэдняй выбарчай прэзідэнцкай кампаніі жылося нам лепей, бо ў 2010 годзе пенсіі павышалі тры разы і гэта не залежала ад росту заробкаў па Беларусі. А зараз што зробіш, бо дзяржаўная казна прахудзілася, даходаў ад экспарту паменела, ужо трэць айчынных прадпрыемстваў і арганізацый сталі стратнымі, зменшылі адлічэнні ў дзяржбюджэт і Пенсійны фонд.

Дзяржава, дзе толькі можа, стараецца адшукаць грошы. Узяліся за непрацуючых суайчыннікаў, урад прыняў днямі пастанову пад д'ябальскім нумарам 666, што прывядзе да павышэння цэн на імпартныя замежныя тавары, альбо да іх дэфіцыту пасля ўвядзенай дадатковай санітарна-гігіенічнай экспертызы. Таксама напрыканцы лета А. Лукашэнка правёў нараду па пытаннях вытворчасці і абароту алкагольнай прадукцыі. Па яе выніках было прынята шэраг кардынальных рашэнняў, а нядаўна пачатая ў Беларусі акцыя "За здаровы лад жыцця" прыказала нядоўга жыць. Меней трох месяцаў у беларускай сталіцы, іншых буйных гарадах існавалі ўведзеныя абмежаванні на продаж напіткаў з градусамі.

Да нядаўняга часу продаж алкаголю быў дазволены ў гандлёвай сетцы толькі з 9.00 да 22.00 вечара. Таксама па ўсёй краіне шырока праводзіліся "Дні цвярозасці", у глыбінцы падчас палявых работ у сельмагах уводзілі забарону на продаж гарэлкі і "чарніла" з півам. У самых рашучых сельсаветах увогуле пайшлі далей і забаранілі прадаваць алкаголь па спісах асобам, якія да гэтага занятку актыўна прызвычаіліся. Аднак, зараз перад выбарамі лозунг "чаркі і шкваркі" зноў правіць баль, пі – не хачу. З таго моманту, напрыклад, як у 7 гадзін раніцы адкрываецца магазін, кожнаму абавязаны прадаваць жаданую бутэльку без абмежаванняў да самага закрыцця крамы, хоць у 24 гадзіны і нават пазней, бо да незадавальнення міліцыі могуць быць і кругласутачныя гандлёвыя кропкі.

Па новых аблегчаных правілах сталі працаваць і айчынныя кропкі грамадскага харчавання. Міністэрства гандлю Беларусі зменшыла максімальна гандлёвую надбаўку на беларускія алкагольныя напоі. Таксама прадпісана яшчэ ў 2 разы павялічыць асартыментны пералік для рэстаранаў, бараў і кафэ для гарэлкі і віна айчыннай вытворчасці. У рэстаранных меню толькі кусок хлеба танней стаў келішка гарэлкі. У такіх умовах, калі імкліва сталі слабець расійскі і наш рубель, яўна ў 5 разоў павялічыўся попыт насельніцтва на наяўныя долары і еўра.

Беларусы добра ўсведамляюць, што ў бліжэйшы час, як з расійскай, так і з нашай нацвалютай могуць быць далейшыя ўзрушэнні. Невыпадкова напрыканцы лета суайчыннікі нават на 10 % знялі свае зберажэнні на рублёвых дэпазітах у банках і патрацілі на свае патрэбы. Далейшае развіццё падзей будзе залежыць ад таго, які чынам будуць складвацца сусветныя цэны на нафту. Калі кошт "чорнага золата" прадоўжыць змяншацца, то і Беларусь ад гэтага пацерпіць, паколькі значныя даходы краіна мае менавіта ад продажу нафтапрадуктаў на замежных рынках. А тое, што наша нацыя адносіцца да ліку самых "п'яных" у свеце было вядома даўно. Рызыкоўны бар'ер 8 літраў чыстага спірту на чалавека мы пераадолелі з гакам, а супердаходы ад продажу алкаголю і тытуню здаўна дазвалялі кожнай дзяржаве затыкаць фінансавыя прарэхі.

Між тым, перакосы на фінансавым рынку некаторым беларусам прынеслі карысць. Асабліва тым, у каго ёсць іншагароднія студэнты без даху над галавой. У Мінску і іншых гарадах цэны на здымныя кватэры пачалі зніжацца. Але зараз таксама відавочна, што беларускую мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця напаткаў сур'ёзны крызіс, і таму "зялёнага змея" выпусцілі на большую свабоду. Кіраўніцтва краіны імкнецца зараз вырашыць частку праблем з дапамогай далёкага ад нас Кітая, з'явілася нават адпаведная прэзідэнцкая дырэктыва, за якую можа і вып'ем, і зноў нальём?

## Дзень за днём

**Знешнегандлёвы абарот Беларусі ў першым паўгоддзі скараціўся на 25,5 %, альбо на 10 млрд. долараў. Ва ўрадзе прапанавалі павялічыць падаткі на даходы грамадзян. Беларусаў чакае павышэнне цэн на завазімыя замежныя тавары. Новыя буйныя гандлёвыя цэнтры сталіцы пераносяць тэрміны адкрыцця з-за недахопу арандатараў. Ужо 79% беларускіх студэнтаў удалося забяспечыць інтэрнатамі, але больш 20 тысяч чалавек павінны жыць на здымных кватэрах. А. Лукашэнка даручыў ураду аптымізаваць вучэбны працэс у школах, але там вучацца пакуль па старых праграмах.**

## Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Пасля няўдалай спробы тэракту ў поездзе Амстэрдам-Парыж кіраўніцтва ЕС увяла выбарачны кантроль на чыгунцы падазроных пасажыраў і іх багажу.

**Егіпет.** Італьянская кампанія Eni знайшла ў Сярэдземным моры ля берагоў краіны супергігантскае радовішча газу, яго запасаў 850 мільярдаў хопіць егіпцянам на 10 гадоў.

**Польшча.** Ва ўрадзе заявілі, што не прымуць прэтэнзій Расіі, калі пацвердзіцца, што ў знойдзеным пад зямлёй бронепоездзе знаходзіцца да 300 тон нацысцкага золата.

**Украіна.** Падчас масавых беспарадкаў каля сцен Вярхоўнай Рады пацярпела больш 140 чалавек, з іх 10 – у цяжкім стане, загінула некалькі байцоў Нацыянальнай гвардыі.

**Галандыя.** ААН і 5 краін, пацярпелых у выніку знішчэння над Данецкам "Боінга-777", дамовіліся, як абысці вета Расіі і пакараць праз міжнародны трыбунал вінаватых.

**Гватэмала.** Пасля пазбаўлення парламентам недатыкальнасці прэзідэнта Перэса Моліны суд забараніў яму пакідаць краіну і санкцыніраваў арышт за карупцыю і махінацыі.

**Бельгія.** Да 16 сакавіка 2016 года главы Міністэрства замежных спраў Еўрасаюза прадоўжылі санкцыі супраць 150 прыбліжаных Пуціна і 37 кампаній Расіі за яе анексію Крыма і агрэсію ў Данбасе.

**Азербайджан.** Суд у Баку прыгаварыў да 7,5 гадоў турмы журналістку радыё "Свабода" Х. Ісмаілаву за крытычныя матэрыялы аб карупцыі ў вышэйшых эшалонах улады краіны.

**Індыя.** У рамках нацыянальнай праграмы дзесцям пачалі плаціць, каб яны карысталіся грамадскімі туалетамі, а не спраўлялі свае патрэбы на вуліцах, як мільярд індусаў.

**Украіна**. У апошні момант Крэмль, як заявіў ваенны эксперт П. Фельгенгаўэр, адмяніў наступальную аперацыю баевікоў у Данбасе, што будзе далей, залежыць ад Пуціна.

**Расія.** Журналіст А. Бабчанка пажадаў Лаліце, І. Кабзону і іншым "патрыётам" спеваў расціснуць замежныя дыскі і ўсю заходнюю апаратуру для іх канцэртаў бульдозерамі.

**Свазіленд.** Позна вечарам у выніку ДТЗ загінулі адразу 65 маладых дзяўчат, якія ехалі на нацыянальны фестываль "Танец трыснягу", дзе кароль Мсваці III адбірае сабе жонак.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск дазволіў святарам падчас Юбілейнага года з 8 снежня сёлета адпускаць грахі жанчынам і іх урачам, якія зрабілі аперацыі аборту.

**Расія.** Увоз мяса сёлета ў РФ, як паведамілі "Новые Известия", зменшыўся на 33,5 %, рыбы – на 44,7 %, праграма імпартазамяшчэння не працуе, 40 % расіян незадаволены.

**Украіна.** На тэрыторы сепаратысцкай "ЛНР" з верасня расійскі рубль атрымаў з дапамогай нібыта нікім непрызнанай Паўднёвай Асеціі статус асноўнай валюты.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Эканаміст А. Балточка пацвердзіў, што за год беларускі рубль упаў да долара на 69,2 %, гэта трэці сур'ёзны валютны крызіс за 6 год, дна падзення ў нацвалюты не існуе.

**Жодзіна.** Глава ўрада А. Кабякоў патлумачыў навучэнцам прафліцэя № 3, што сітуацыя ў краіне пагоршылася нібыта з-за ўзніклых праблем у сусветнай эканоміцы.

**Гомель.** Казахстан поўнасцю адмовіўся ад тэхнікі "Гомсельмаша", там запусцілі два заводы заходняй тэхнікі для АПК, сёлета ў РФ прадалі 24, у Польшчу – 7 камбайнаў.

**Мінск.** З-за дысбалансу ў эканоміцы, як папярэдзіў былы глава ўрада Беларусі Міхаіл Чыгір, да канца года курс нацвалюты можа наблізіцца да 30 тысяч рублёў за долар.

**Магілёў.** Эканамічны суд вобласці пачаў справу аб банкрутстве кампаніі "БізнасБудМір" з-за вялікіх даўгоў, яна раней купіла завод драўнінавалакністых пліт у Бабруйску.

**Крычаў.** Глава вобласці У. Даманеўскі паабяцаў падтрымку калектыву старога завода "Цэментнашыфер", які паўгода прастойвае, каб супакоіць людзей перад выбарамі.

**Мінск.** На 84% упалі сёлета продажы грузавікоў МАЗ на расійскім рынку, восенню кітайская кампанія China FAW запускае свой аўтазавод грузавых аўто ў Казахстане.

**Баранавічы.** Толькі нейтральны статус краіны, як заявіла прэтэндэнт на пасаду прэзідэнта Тацццяна Караткевіч, залог міру для Беларусі, а не размяшчэнне замежных ваенных баз.

**Гродна.** У вобласці прызналі несапраўднымі ўсе 11 тысяч подпісаў за В. Цярэшчанку, бо "падпісваліся" нават памерлыя і выдуманыя прозвішчы, як выявілася падчас праверкі.

**Ліда.** На ААТ "Лідсельмаш" пачалі выпуск сучасных еўракантэйнераў аб'ёмам 1,1 куб.м на чатырох калёсах для раздзельнага збору смецця і бытавых адходаў.

**Мінск.** Аб'ёмы выпускаемай прадукцыі ў Беларусі, як заявіў эканаміст Л. Злотнікаў, зніжаюцца з 2012 года, рэцэсія і сістэмны крызіс узніклі з-за дзеючай эканамічнай мадэлі.

**Камянец.** Як высветліў адзін з блогераў, А. Лукашэнка заклікаў суайчыннікаў не купляць імпартныя тавары, хоць сам носіць швейцарскі гадзіннік за 15 тысяч долараў.

**Гомель.** Падчас візіту апостальскі нунцый кардынал К. Гуджэроцці пацвердзіў, што вызваленне з турмаў шасці палітзняволеных адбылося па просьбе Папы Рымскага.

**Баранавічы.** Ва ўсіх кутках 180-тысячнага горада былі чутны выбухі, калі з дапамогай выбухоўкі на тэрыторыі 61-й авіябазы ўзарвалі стары бетонны вузел.

**Гродна.** У СШ № 34 ліквідавалі апошні ў абласным цэнтры беларускамоўны клас, у Брэсце застаўся адзін такі клас, але ў ім толькі 5 вучняў, якія вучацца па-беларуску.

## Падатковая прапануе «па справядлівасці» спаганяць зборы на нерухомасць з фізічных асоб



■ FINANCE.TUT.BY

**Падатак на нерухомасць сёння выплачваюць каля 2,5 мільёна фізічных асоб. «На першы погляд - дастаткова значная колькасць. Аднак, больш за палову з іх карыстаюцца ільготамі (аж да поўнага вызвалення)», - адзначае намеснік міністра па падатках і зборах Э.Сяліцкая У гэтай сітуацыі МПЗ выступае за тое, каб спаганяць плацёж з фізічных асоб, улічваючы справядлівы кошт нерухомасці.**

Па словах Э.Сяліцкай, за мінулы год фізасобы папоўнілі бюджэт на 196,8 мільярда рублёў. «Гэта значна менш аб'ёмаў паступленняў з боку асобных буйных прадпрыемстваў», - заявіла намеснік міністра па падатках і зборах.

На агульнай суме падатковых збораў на нерухомасць адбіваецца тое, што «па шэрагу аб'ектаў дзяржава дае плацельшчыкам льготы». «Існуючы парадак падаткаабкладання дазволіў дамагчыся павелічэння яго ўдзельнай вагі ў агульным аб'ёме даходаў бюджэту. У 2009 годзе паказчык складаў 3,1%, а ў 2014 - ужо 4% (дадзеныя па арганізацыях і фізічных асобах. - Заўвага. FINANCE.TUT.BY). Аднак, доля плацяжу ўсё яшчэ застаецца нязначнай і недастатковай. У выдатках плацельшчыкаў-юрыдычных асоб яго аб'ём таксама невялікі (толькі 0,6%)».

Намеснік міністра па падатках і зборах перакананая, што пры вылічэнні падатку на нерухомасць існуе шэраг праблем. «Па-першае, МПЗ зацікаўлена спаганяць плацёж, улічваючы справядлівы кошт нерухомасці. Выкарыстаны ў дадзены момант рэшткавы кошт можа быць вышэй або ніжэй рынкавага з-за прымянення для яго сучасных спецыяльных індэксаў, - удакладняе Эла Сяліцкая. - На жаль, апошнія могуць значна скажаць рэальную карціну. Іншымі словамі, у шэрагу выпадкаў, у якасці падатковай базы выступае вельмі абстрактнае значэнне».

МПЗ таксама занепакоена «нераўнамерным размеркаваннем падатковай нагрузкі паміж арганізацыямі і фізічнымі асобамі».

Э.Сяліцкая нагадала, што падатак на нерухомасць для фізічных асоб вызначаецца ў памеры аціначнага кошту альбо кошту, які разлічваецца на падставе базавага разліковага кошту 1 кв. м. тыпавога будынку і нетыповага. «Мясцовым Саветам дэпутатаў прадастаўлена права павялічваць або памяншаць (але не больш, чым у два з паловай разы) стаўкі падатку на нерухомасць. Варта адзначыць, што дадзены плацёж з'яўляецца асноўнай прыбытковай крыніцай мясцовых бюджэтаў. Улічваючы дадзеную асаблівасць і той факт, што сёння заканадаўства прадугледжвае падлік падатку не ад рынкавага, а ад рэшткавага кошту аб'ектаў абкладання, на большасці тэрыторый краіны стаўкі для арганізацый устаноўлены ў максімальна магчымым памеры».

Нагадаем, у 2016 годзе можа істотна змяніцца спрошчаная сістэма падаткаабкладання. Гэта вынікае з праекта Закона «Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс Рэспублікі Беларусь». Так, прапануецца знізіць з 1,5 тыс. да 1 тыс.кв.м. падатку на нерухомасць суб'ектамі прадпрымальніцтва, якія карыстаюцца ССП.

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Наваполацк.** З пачатку года ААТ "Нафтан" разам з Мазырскім НПЗ адгрузілі ў Расію толькі 614 тысяч тон бензіна, па дагавору з РФ такі гадавы аб'ём паставак 1,8 млн. тон.

**Чашнікі.** З санкцыі Генпракуратуры Беларусі арыштавалі па падазрэнню ў злоўжыванні службовым становішчам старшыню райвыканкама У. Булая, які ўзначаліў раён у 2011 г.

**Талачын.** Райцэнтр удалося абнавіць да прадстаячых абласных "Дажынак-2015", сёлета ўпершыню Віцебская вобласць намалаціла рэкордную колькасць збожжа – 1,4 млн. тон.

**Віцебск.** Кіравацц консульствам Латвіі ў абласным цэнтры стаў новы дыпламат Угіс Скуя, дагэтуль ён працаваў у Брусэлі ў дыппрадстаўніцтве краіны ў Еўрасаюзе.

**Лепель.** З-за недахопу фінансаў у раёне спынілі будаўніцтва двух новых малочнатаварных ферм, рэсурсы сканцэнтравалі на МТФ "Чарэйшчына", яе пастараюцца закончыць.

**Полацк.** Калектыў праблемнага ААТ "Полацк-Шкловалакно" узначаліў новы дырэктар, 44-гадовы Андрэй Бунакоў, юрыст па адукацыі, ён валодае замежнай мовай.

**Віцебск.** Падчас спецаперацыі "Мак" міліцыя прыцягнула да адміністрацыйнай адказнасці летам больш 550 жыхароў вобласці, іх пакаралі штрафамі амаль на 2 мільярды рублёў.

**Глыбокае.** Да прадстаячага ацяпляльнага сезону ў раёне замянілі звыш 5 км цеплясетак сучаснымі ізаляванымі трубамі, яшчэ 3 жылыя дамы абсталявалі прыборамі ўліку цяпла.

**Мёры.** З-за пашкоджання моцнай навальніцай абсталявання раённага вузла электрасувязі ў раён нельга было дазваніцца па тэлефоне, пакуль тэхнікі не ліквідавалі аварыю.

**Віцебск.** Да мясцовай бройлернай птушкафабрыкі далучылі эксперыментальную базу імя Шмырова і яшчэ адзін праблемны саўгас "Задуброўе", яшчэ раней – СВК "Тарасенкі".

**Бешанковічы.** Раніцай каля вёскі Забелле 37-гадовы мужчына ехаў на мапедзе, на павароце не ўступіў дарогу грузавіку Volvo і загінуў у выніку сутыкнення.

**Верхнядзвінск.** Райцэнтр стаў апошнім на Віцебшчыне, дзе нарэшце з'явіўся свой гісторыка-краязнаўчы музей у доме яўрэя-абутніка, пабудаваным 120 гадоў назад.

**Бягомль.** На аднаўленых брацкіх могілках у скверы гарпасёлка з'явілася ўстаноўленае прозвішча сына айчыннага моваазнаўцы Б. Тарашкевіча, які загінуў у баі з гітлераўцамі.

**Паставы.** Ва ўзросце 91 год памерла былая глава раёна і першы сакратар райкама КПБ з 1970 па 1978 год Валянціна Клачкова, яна была і дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

**Наваполацк.** Пасля бурнага застолля і ўзнікшай затым спрэчкі ў сваёй кватэры каля 19 гадзін вечара гараджанка нажом забіла свайго 43-гадовага сужыцеля, забойцу арыштавалі.

**Шаркоўшчына.** Ганаровае званне "Лепшы грамадскі эколаг краіны" атрымаў фатограф мясцовага райбыткамбіната Валерый Кавалёнак, ён робіць шмат фота аб жывой прыродзе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Драпежныя звяры трымаюць у страху ўсё Глыбокае!




■ Уладзімір Скрабатун

Ёсць мядзведзі ў лясным масіве Чорны Ручай, альбо іх там няма? – цяпер пытанне так не стаіць. Ёсць! На выездзе з Падсвілля паставілі банэр з красамоўнай карцінкай.

Што ні кажы – насталі часіны! І хто яшчэ гадоў сем таму аб гэтым мог бы падумаць! Цяпер, любое варушэнне чалавека ў карычневай куртцы ў хмызняках, які збірае грыбы, можа падацца іншаму грыбніку, як варушэнне мядзведзя. І сэрца – у пяткі!

Не той герб надалі Падсвіллю! Трэба было мядзведзя, а не трох карасёў! Жарт, натуральна.

# Віцебскія следчыя расследуюць шматмільярдны крадзеж у Мёрскім райпо

**Упраўленнем Следчага камітэта па Віцебскай вобласці расследуецца крымінальная справа ў дачыненні да дзевяці службовых асоб Мёрскага раённага спажывецкага таварыства.**

Як паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Іна Гарбачова, устаноўлена, што службовыя асобы, у ліку якіх намеснік старшыні праўлення па эканоміцы, работнікі бухгалтэрыі, касіры і загадчыкі магазінаў, распрацавалі некалькі злачынных схем і цягам трох гадоў выкрадалі бюджэтныя сродкі на агульную суму больш за 3 мільярды беларускіх рублёў.

Пры гэтым, удзельнікі злачыннай групы выкрадалі як грошы, якія захоўваюцца ў касе, так і таварна-матэрыяльныя каштоўнасці.

Следства вырашыла заключыць пад варту 7 падазраваных асобаў. Расследаванне крымінальнай справы, распачатай па ч.4 арт.210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейснены ў асабліва буйным памеры) КК РБ, працягваецца, дэталёва высвятляюцца абставіны здарэння, усталёўваецца роля кожнага ўдзельніка злачыннай групы.

sk.gov.by




**Дзіўная рэчаіснасць! Вяскоўцы збягаюць у горад, стараюцца забыцца аб сваім вясковым паходжанні, а гараджане, наадварот, імкнуцца ў вёску... Калі аб'ехаць усю Глыбоччыну, то часта ўбачым пануpую карціну: паўсюдна знікаюць вёскі, на іх месцы паўстае лес і хмызняк. Добра, калі вёска стаіць на беразе некалькі азёраў, а побач – рэчка, непадалёк – лес. Ну, хаця б, як Бабруйшчына: чатыры возеры, рака Шоша і пушча, ці, як Перавоз – рака і пушча. Такая вёска мае ўсе шанцы на выжыванне, бо ёсць шмат гараджанаў, якія жадаюць жыць на ўлонні прыроды, займацца натуральнай гаспадаркай.**

# Гаспадарка Аксаны Лашкевіч

■ Уладзімір Скрабатун

З Аксанай Лашкевіч нашыя журналісты пазнаёміліся два гады таму. Тады мы паведамлялі, што ў вёсцы Хралы яе жыхароў беспадстаўна прымусілі выразаць свіное пагалоўе, нібыта ў ваколіцах, раптам, сканаў дзік ад афрыканскай чумы. Як сталася, ніякіх падставаў для знішчэння свіней не было. Жыхары вёскі абурыліся такім самаўпраўствам чыноўнікаў, пачалі звяртацца па дапамогу да незалежных СМІ, прыязджаў, нават, БелСАТ.

Аксана Лашкевіч, інжынер-механік, жыла і працавала ў Наваполацку, нават два гады пажыла ў Санкт-Пецярбургу, але вось на сталае жыхарства з сям'ёй пераехала ў вёску Хралы, у "Цэнтр Еўропы", дзе азёры, а побач Галубіцкая пушча. Займаецца натуральнай гаспадаркай! Усіх жывёлаў і птушак: козы, авечкі, в'етнамскія свінні, трусы, куры, гусі, качкі – галоў за 100! І як дае рады? Але ж дае і не скардзіцца, бо любіць гэтым займацца! Нядаўна асвоіла выраб сычужных сыроў. Натуральна, прывесці такую гаспадарку ў парадак, патрэбны вялікі час. Але ўжо стаяць разлеглыя вальеры для жывёлаў, пакрысе перабудоўваецца стары вясковы дом пад сучаснае жыллё. Паглядзець гаспадарку Аксаны, часам, спыняюцца і экскурсанты.

Радуе, што яшчэ адной такой вёсцы Глыбоччыны, як Хралы, пашанцавала. Сюды пераехала не толькі Аксана, але і іншыя палачане і навапалачане. Вёска набывае новае жыццё. Паўстаюць прыгожыя домікі, якія накрытыя металадахоўкай.


Статак любімых коз Аксаны.


Вальеры з авечкамі.

**Сярэдні памер дапамогі на аднаго беспрацоўнага ў ліпені склаў 230,2 тысячы рублёў, ці 14,6% ад бюджэту пражытковага мінімуму ў сярэднім па душу насельніцтва. Пра гэта паведамляе Нацбанк. У пераліку па сярэднязважаным курсе дапаможнік ледзь перавышае 15 даляраў.**

За месяц дапаможнік па беспрацоўі вырас на 2600 рублёў. Нагадаем, у чэрвені дапаможнік склаў 227,6 тысячы рублёў, ці 14,5% ад бюджэту пражытковага мінімуму.

# Сярэдняя дапамога беспрацоўным у Беларусі складае 15 даляраў

У параўнанні з траўнем непрацаўладкаваныя беларусы сталі атрымліваць амаль на 1300 рублёў менш. Больш за ўсё беспрацоўныя атрымлівалі ў чэрвені ў Гомельскай вобласці – 249,6 тысячы рублёў, менш усяго — у Мінску (194,7 тысячы).

Да прыкладу, у Магілёўскай вобласці ў ліпені дапамогу па беспрацоўі атрымлівалі 2,4 тысячы беспрацоўных, яе сярэдні памер склаў 217,9 тысячы рублёў.

Як раней паведамляў FINANCE.TUT.BY, беларуская дапамога па беспрацоўі істотна саступае выплатам непрацаўладкаваным у іншых краінах. Напрыклад, ва Украіне сярэдняя дапамога ў чэрвені склала 868 тысяч рублёў (усе сумы ў тэксце прыведзеныя ў беларускіх рублях па курсе Нацбанка на 31 ліпеня — FINANCE.TUT.BY). У Расіі выплаты беспрацоўным вар'іруюцца ад 219 тысяч да 1,3 мільёна рублёў.

Яшчэ ў адной краіне Мытнага саюза — Казахстане — сярэдні памер дапамогі складае 2,2 мільёна рублёў. Пры стажы большым за 24 месяцы беспрацоўны можа атрымліваць матэрыяльную дапамогу на працягу 4 месяцаў, а калі стаж меншы – то 2-3 месяцы.




Польскія беспрацоўныя атрымліваюць 3,3 мільёна рублёў на працягу першых 90 дзён пасля рэгістрацыі ў цэнтры занятасці, а ў наступным — 2,7 мільёна.

Тым часам, Мінпрацы прагназуе, што ўзровень беспрацоўя за пяцігодку можа падвоіцца.

FINANCE.TUT.BY

# Ахоўваешся – атрымай ліцэнзію!

**Многія прадпрыемствы, арганізацыі, ўстановы і прыватныя ўласнікі выкарыстоўваюць штатных вартаўнікоў і ведамасную ахову для забеспячэння бяспекі і захаванасці маёмасці. Пры гэтым нярэдка не падазраючы, што парушаюць закон.**

■ **В.Л. Белы,** *старшы інспектар ліцэнзійна-кантрольнай групы Глыбоцкага аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь, маёр міліцыі*

Згодна з арт.23 Закона ад 08.11.2006 года №175-З “Аб ахоўнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь” (далей – Закон) арганізацыі, якія валодаюць правам стварэння ваенізаванай аховы, маюць права ажыццяўляць ахоўную дзейнасць сіламі работнікаў аховы, у тым ліку, стварыць для гэтых мэтаў падраздзяленне аховы. Пры гэтым, у адпаведнасці з арт.9 Закона такая дзейнасць ажыццяўляецца на падставе спецыяльных дазволаў (ліцэнзій) на ахоўную дзейнасць, калі іншае не прадугледжана ч.3-5 арт.9 Закона. Такім чынам, калі прадпрыемства ахоўвае вартаўнік або іншыя работнікі, якія ажыццяўляюць ахоўныя функцыі, атрыманне ліцэнзіі абавязковае. У адваротным выпадку можна зарабіць штрафныя санкцыі ад 10 да 100 базавых велічынь паводле Адміністрацыйнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з заканадаўствам для падаўжэння тэрміну дзеяння ліцэнзіі ліцэнзіят абавязаны не пазней чым за 1 месяц і не раней чым за 3 месяцы да заканчэння гэтага тэрміну падаць асабіста, альбо праз яго ўпаўнаважанага прадстаўніка, у адпаведны ліцэнзуючы орган заяву аб працягу тэрміну дзеяння ліцэнзіі з даткам дакумента аб выплаце дзяржпошліны за падаўжэнне тэрміну дзеяння ліцэнзіі. Ліцэнзуючы орган на падставе прадстаўленай ліцэнзіятам заявы ў 15-дзённы тэрмін прымае рашэнне аб прадаўжэнні тэрміну дзеяння ліцэнзіі на тэрмін не больш за 10 гадоў, які вылічаецца з даты завяршэння папярэдняга тэрміну.

Калі ж тэрмін дзеяння ліцэнзіі не мінуў, але была зменена назва прадпрыемства, яго месца размяшчэння, уласнік і да т.п., ліцэнзіят абавязаны звярнуцца ў ліцэнзуючы орган для ўнясення ў ліцэнзію зменненняў і (або) дапаўненняў.

У выпадку рэарганізацыі юрыдычнай асобы ў форме зліцця, пераўтварэння, выдзялення або падзелу зноў створанае юрыдычная асоба пры намеры ажыццяўляць ліцэнзуемы від дзейнасці рэарганізаванага прадпрыемства абавязана падаць у адпаведны ліцэнзуючы орган заяву з прыкладаннем неабходных дакументаў для выдачы новай ліцэнзіі ва ўстаноўленым парадку.




Пры рэарганізацыі ліцэнзіята – юрыдычнай асобы – у форме выдзялення або далучэння да яе другой юрыдычнай асобы, калі звесткі, што падлягаюць называнню ў ліцэнзіі рэарганізаванай арганізацыі, не змяніліся, гэта арганізацыя мае права ажыццяўляць дзейнасць на падставе раней выдадзенай ліцэнзіі. У выпадку, калі звесткі, што падлягаюць называнню ў ліцэнзіі, змяніліся, рэарганізаваная арганізацыя гэтак жа абавязана ўнесці змяненні і (або) дапаўненні ў ліцэнзію.

Пры парушэнні ліцэнзіятам вызначанага тэрміну дзеянне ліцэнзіі спыняецца на наступны дзень пасля яго заканчэння без прыняцця ліцэнзуючым органам рашэння аб спыненні дзеяння ліцэнзіі.

**Ліцэнзуючы орган размешчаны па адрасе г. Глыбокае, вул. Мінская д.1, Глыбоцкі ТДА МУС Рэспублікі Беларусь, тэлефон для даведак 2-33-63.**

# Бачыш правапарушэнне – не заставайся ў баку!

**По выніках мінулага перыяду гэтага года, у параўнанні з аналагічным перыядам 2014 года, на тэрыторыі Віцебскай вобласці павялічылася колькасць цяжкіх рэцыдыўных злачынстваў, пры гэтым адзначаецца рост рэцыдыўных забойстваў, цяжкіх цялесных пашкоджанняў і разбояў.**

■ **С.В. Ешчанка,**
*начальнік крымінальна-выканаўчай-інспекцыі Глыбоцкага РАУС*

У мэтах папярэджання цяжкіх і асабліва цяжкіх рэцыдыўных злачынстваў, а таксама ў адпаведнасці з планам асноўных арганізацыйных мерапрыемстваў УУС Віцебскага аблвыканкама на другое паўгоддзе 2015 года, у мэтах аздараўлення аператыўнай абстаноўкі, звязанай з правядзеннем правапарушэнняў асобамі, якія маюць судзімасць, з 7 па 15 верасня 2015 на тэрыторыі Глыбоцкага раёна было праведзена спецыяльнае комплекснае мерапрыемства (СКМ) “Нагляд“ з удзелам усіх службаў і падраздзяленняў Глыбоцкага РАУС і з прыцягненнем супрацоўнікаў Глыбоцкага аддзела Дэпартамента ахова МУС Рэспублікі Беларусь.

Падчас правядзення дадзенага мерапрыемства былі падвергнуты праверцы ў вячэрні і начны час сутак па месцы жыхарства ўсе асобы, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, такія як асуджаныя да адбывання пакаранняў па прысудах судоў, не звязаных з пазбаўленнем волі і якія маюць незнятую і непагашаную судзімасць пасля адбыцця пакарання і вяртання з месцаў пазбаўлення волі, якія стаяць на прафілактычным уліку. Усяго наведана па месцы жыхарства 289 асоб дадзенай катэгорыі, з якіх: 9 асобаў, што знаходзіліся пад прэвентыўным наглядам, 14 асоб асуджаных да абмежавання волі без накіравання ў ПУАТ, 71 асоба, у дачыненні да якой можа быць усталяваны прэвентыўны нагляд, 120 асоб, асуджаных да пакаранняў, не звязаных з пазбаўленнем волі і 75 асоб, якія маюць незнятую і непагашаную судзімасць.

Пры наведванні па месцы жыхарства і месцы працы праводзілася вывучэнне мікраклімату ў сям’і, узаемаадносіны ў працоўным калектыве, высвятляліся наяўныя ў іх праблемы, у тым ліку рашэнне якіх уваходзіць у кампетэнцыю іншых дзяржаўных органаў.

Праведзены СКМ “Нагляд“ паказаў, што не ўсе раней судзімыя асобы хочуць ўставаць на шлях выпраўлення і весці законапаслухмяны лад жыцця.

Так, у дачыненні да грна Л., які з’яўляецца асобай, у адносінах да якой можа быць усталяваны прэвентыўны нагляд, за неаднаразовыя парушэнні адміністрацыйнага заканадаўства, судом Глыбоцкага раёна быў усталяваны прэвентыўны нагляд на тэрмін 6 месяцаў з пэўнымі абмежаваннямі, такімі як знаходжанне па месцы жыхарства ў вячэрні і начны час і строгай яўцы на рэгістрацыю ў Глыбоцкі РАУС.

У дачыненні да грамадзяніна П. і грамадзянкі С. за неаднаразовыя парушэнні патрабаванняў прэвентыўнага нагляду і ўхіленне ад прэвентыўнага нагляду распачаты крымінальныя справы па арт.421 і арт. 422 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Санкцыі дадзеных артыкулаў прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да 2-х гадоў.

Не ўсе асуджаныя ўсведамляюць неабходнасць добрасумленна працаваць і адбываць прызначанае рашэннем суда пакаранне ў выглядзе папраўчых работ. Так, у дачыненні да грамадзяніна Л., за неаднаразовыя парушэнні працоўнай дысцыпліны падчас адбыцця пакарання і злоснае ўхіленне ад папраўчых работ, распачата крымінальная справа па арт.416 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь. Зараз яму пагражае пакаранне ў выглядзе арышту альбо абмежавання волі на тэрмін да 2 гадоў.

Падчас СКМ праведзены пасяджэнні грамадскіх пунктаў аховы правапарадку пры сельскіх выканаўчых камітэтах, на якіх было разгледжана 16 асоб, якія стаяць на ўліку ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Глыбоцкага РАУС, якія не працуюць і пры гэтым злоўжываюць спіртнымі напоямі, якім была прапанавана дапамога па працаўладкаванні.

Выяўлена адно парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду, у дачыненні да грамадзяніна Ж., за якім такі нагляд усталяваны, за што судом Глыбоцкага раёна ён прыцягнуты да штрафу ў памеры 6 базавых велічынь.

Ва УЗ «Глыбоцкая ЦРБ” была праведзена медыцынская камісія для вызначэння стану здароўя і магчымасці знаходжання ва ўмовах ЛПП двух асоб, якія маюць судзімасць і якія злоўжываюць спіртнымі напоямі.

Вынесена 4 спагнанні асобам, што парушаюць парадак і ўмовы адбывання пакарання, не звязаныя з пазбаўленнем волі, адно з якіх у выглядзе 3-х сутак дысцыплінарнай ізаляцыі ў ізалятары часовага ўтрымання Глыбоцкага РАУС.

У перыяд правядзення СКМ “Нагляд“ на тэрыторыі Глыбоцкага раёна цяжкіх рэцыдыўных злачынстваў, а таксама злачынстваў іншых катэгорый, асобамі, якія маюць незнятую і непагашаную судзімасць не дапушчана, на тэрыторыі раёна дасягнуты пэўныя вынікі, якія станоўча ўплываюць на аздараўленне крымінагеннай абстаноўкі і спрыяюць зніжэнню ўчынення паўторных злачынстваў асобамі, што маюць судзімасць.

Глыбоцкім РАУС з зацікаўленымі ведамствамі раёна праводзіцца пастаянная работа па аздараўленні крымінагеннага становішча, дезалкагалізацыі насельніцтва, прафілактыцы ўчынення злачынстваў і адміністрацыйных правапарушэнняў.

Аналіз стану законнасці і правапарадку на тэрыторыі раёна сведчыць, што праваахоўнымі органамі на пастаяннай аснове праводзіцца планамерная праца па ўмацаванні законнасці, абароне канстытуцыйных правоў грамадзян, грамадскіх і дзяржаўных інтарэсаў.

Адна з важных задач прафілактычнай працы аддзела ўнутраных спраў – своечасовае і поўнае выяўленне раней судзімых асоб, якія ў адпаведнасці са сваімі схільнасцямі, звычкамі, поглядамі зноў могуць стаць на злачынны шлях.

**У мэтах далейшай працы па падтрыманні правапарадку на тэрыторыі Глыбоцкага раёна неабходна ўсім грамадзянам не заставацца ў баку і пра вядомых ім фактах парушэнняў грамадскага парадку асобамі, якія маюць судзімасць і адбываюць пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі, звяртацца ў Глыбоцкі РАУС па тэлефонах: 102, 2-27-02, 2-17-60.**



# Нарыхтоўка драўніны павінна ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці дакументаў



**З надыходам восені штогод востра паўстае пытанне высечкі драўнінна-хмызняковай расліннасці, нарыхтоўкі дроў насельніцтвам, асабліва на землях сельскагаспадарчага прызначэння, а таксама ў дзяржаўным лясным фондзе.**

■ **В.Е. Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай іспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Штотыдзень супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету затрымліваюць грамадзян за самавольную незаконную высечку дрэў. Як правіла, затрыманыя спасылаюцца на вусныя дазволы адказных службовых асобаў альбо на тое, што раней (пры СССР) ніякіх дакументаў не трэба было, бяры, сячы, знішчай усё вакол. Але мы жывем у іншай дзяржаве, дзе ёсць закон, які патрабуе выканання і кантролю, і любыя дзеянні грамадзян абмежаваныя прававым полем, усе дзеянні выразна распісаны. Пры выяўленні і затрыманні інспектарамі парушальнікаў, асобныя грамадзяне, асабліва «дзелавыя“, пачынаюць пагражаць скаргамі ў розныя вышэйстаячыя інстанцыі, аж да Адміністрацыі Прэзідэнта. Але, паважаныя, інспектары Вас на парушэнне не штурхаюць, не сячы, не крадзі, не бяры чужога і ніхто Вас не кране. Усе пагрозы гэта толькі для страсення паветра, закон ёсць закон.

17 верасня гэтага года затрыманы жыхар г. Глыбокае, які без дакументаў незаконна высек 4 м$^3$ драўніны, з мэтай далейшай рэалізацыі насельніцтву. Сума нанесенай шкоды склала амаль 2 млн. рублёў, разам з накладзеным штрафам – 3 млн. рублёў. Лес сякуць, грошы ляцяць, ды толькі ў саміх незаконных лесарубаў.

Міжраённая інспекцыя ў чарговы раз тлумачыць парадак нарыхтоўкі і водпуску драўніны па ордэрах на землях сельскагаспадарчага прызначэння.

У адпаведнасці з пунктам 2 «Правіл водпуску драўніны на пні і яе нарыхтоўкі ў лясах Рэспублікі Беларусь“ (далей – Правілы), зацверджаных Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 07.05.2007 №214 у дачыненні драўніна-хмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку размешчанай **на землях сельскагаспадарчага прызначэння**, сапраўдныя Правілы прымяняюцца ў поўным аб'ёме.

Дазвольным дакументам на права нарыхтоўкі драўніны з'яўляецца лесасечны білет (ордэр на дробны водпуск драўніны на пні (далей – ордэр)).

Згодна з пунктам 38 Правілаў:

***"Лесасечны білет (ордэр) на нарыхтоўку драўніны штогод выдаецца лесакарыстальнікам юрыдычнай асобай, якая вядзе лясную гаспадарку (лясгасам), на канкрэтную лесасеку і з'яўляецца дакументам, які дазваляе лесакарыстальнікам ажыццяўляць нарыхтоўку драўніны ў паказаным у гэтым білеце (ордэры) аб'ёме ў адпаведнасці з тэхнічнымі нарматыўнымі прававымі актамі і ва ўстаноўлены тэрмін, а таксама прадастаўляюць права фізічным асобам нарыхтаваць драўніну на яе вывазку.***

***Лесасечныя білеты (ордэры) на нарыхтоўку драўніны выдаюцца лесакарыстальнікам юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасам), на працягу года ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, калі іншае не вызначана Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.***

***Лесасечныя білеты (ордэры) на права выдалення (нарыхтоўкі) драўніна-хмызняковай расліннасці (насаджэнняў), якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, выдаюцца лесакарыстальнікам юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку, на падставе рашэнняў мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў .***

***Рашэнне мясцовага выканаўчага і распарадчага органа аб выдаленні (нарыхтоўцы) драўніна-хмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння прымаецца па ўзгадненні з тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя з улікам заключэння спецыяльна ўпаўнаважанага мясцовым выканаўчым і распарадчым органам юрыдычнай асобы ў галіне азелянення".***

Пасля атрымання прынятага рашэння аб выдаленні (нарыхтоўцы) драўніна-хмызняковай расліннасці, якая не ўваходзіць у лясны фонд, у тым ліку на землях сельскагаспадарчага прызначэння, **землекарыстальнік звяртаецца да юрыдычнай асобы, што вядзе лясную гаспадарку (лясгаса), для выдачы дазвольнага дакумента (лесасечнага білета, ордэра) на нарыхтоўку драўніны**.

Улік, захоўванне, запаўненне і выдача ордэра ажыццяўляецца ў адпаведнасці з "Інструкцыяй аб парадку ўліку, захоўвання, запаўнення і выдачы лесасечнага білета, ордэра і ляснога білета", зацверджанай пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27.09.2006 №1276.

Ордэры выдаюцца лесакарыстальнікам, ляснічым толькі на тую драўніну, якая па лесасечных білетах, афармленых лясгасам на лясніцтва, выдзелена для вытворчасці дробных водпускаў драўніны па ордэрах.

**Памер дробнага водпуску драўніны на пні па кожнаму ордэру не павінен перавышаць 50 кубічных метраў.**

У выпадку дробнага водпуску лясніцтвам драўніны ў парадку уборкі захламленасці, высечкі сухастойных, ветравальных і бураломных дрэў, прадугледжанага Правіламі водпуску драўніны на корані, у аб'ёме да 15 кубічных метраў дроўнай драўніны лесасечны білет на адпушчаную лесакарыстальнікам па такіх ордэрах драўніну выпісваецца лясніцтвам па паўгоддзях пасля прад'яўлення юрыдычнай асобе, што вядзе лясную гаспадарку, выдадзеных за паўгоддзе ордэраў.

Табліца ордэра на дробны водпуск драўніны на пні запаўняецца на падставе матэрыялаў адводу і таксацыі лесасек (ведамасці пералік дрэў, прызначаных для высечкі, і ведамасці матэрыяльна-грашовай ацэнкі лесасекі на колькасць драўніны, што адпускаецца).

**Адвод і таксацыя лесасек для дробнага водпуску драўніны на пні вырабляецца юрыдычнымі асобамі, якія вядуць лясную гаспадарку (лясгасамі)**, у адпаведнасці з Правіламі адводу і таксацыі лесасек у лясах Рэспублікі Беларусь, зацверджаных пастановай Мінлясгаса ад 29.12.2006 №35.

Так як юрыдычная асоба, якая вядзе лясную гаспадарку, нясе пэўныя затраты на адвод і таксацыю лесасек, то паміж ім і землекарыстальнікам дадзены від паслуг можа праводзіцца на дамоўных умовах.

Такім чынам, усе нарыхтоўкі драўніны павінны ажыццяўляцца толькі пры наяўнасці дакументаў, выдадзеных работнікамі лясгаса.

# Узровень пажарнай бяспекі праверaных суб'ектаў

**У другім паўгоддзі 2015 інспекцыяй нагляду і прафілактыкі Глыбоцкага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях завершаны планавыя праверкі 8-мі суб'ектаў: Глыбоцкая РАС «ДТСААФ“ (старшыня Алексін М.З.), ДУА «Цэнтр дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна“ (дырэктар Касцюкевіч З.К ,), ТАА «Число Удачи“ (адміністратар Касарэўская А.А.), ТАА «ГлобалМиксСтрой“ (дырэктар Далжонак К.Н.), ПГУП «Арбузік“ (дырэктар Шарабайка А.Н.), індывідуальных прадпрымальнікаў Ліпчыка В.М., Захарчонак М.С. і Мушкат В.В.**

Па выніках планавай праверкі **Глыбоцкай РАС "ДТСААФ"** выяўлены наступныя парушэнні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі:

у адміністрацыйным будынку адсутнічае сістэма аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі; неарганізавана правядзенне трэніровачных заняткаў для персаналу па эвакуацыі людзей з будынка ў адпаведнасці з планам эвакуацыі і інструкцыяй; план эвакуацыі не адпавядае патрабаванням; работнікі аб'екта, задзейнічаныя ў рэалізацыі плана эвакуацыі, не забяспечаны самавыратавальнікамі; навучанне работнікаў мерам пажарнай бяспекі арганізавана не ў поўным аб'ёме; адсутнічае загад аб стварэнні сістэмы навучання патрабаванням пажарнай бяспекі работнікаў арганізацыі, не пройдзена навучанне па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; адсутнічае журнал для кантролю за станам першасных сродкаў пажаратушэння; маюцца парушэнні правілаў устройства і эксплуатацыі электраўстановак (электрычныя свяцільнікі эксплуатуюцца без ахоўных плафонаў, размеркавальныя каробкі – без ахоўных крышак).

Пры правядзенні праверкі **ДУА "Цэнтр дзяцей і моладзі Глыбоцкага раёна"** выяўлена, што:

будынак установы не абсталяваны аўтаматычнай пажарнай сігналізацыяй; на шляхах эвакуацыі ў будынку ўстановы прыменена гаручая аддзелка; работнікі аб'екта, якія задзейнічаныя ў рэалізацыі плана эвакуацыі, не забяспечаныя самавыратавальнікамі.

Пры правядзенні праверкі **ТАА "Число Удачи"** выяўлена, што:

работнікі аб'екта, задзейнічаныя ў рэалізацыі плана эвакуацыі, не забяспечаны самавыратавальнікамі; асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; будынак не забяспечаны спраўнымі першаснымі сродкамі пажаратушэння; адсутнічае журнал для кантролю за станам першасных сродкаў пажаратушэння; у будынку адсутнічае план эвакуацыі людзей пры пажары; не арганізавана правядзенне трэніровачных заняткаў для персаналу па эвакуацыі людзей з будынкаў; не распрацаваны інструкцыі па пажарнай бяспецы; з супрацоўнікамі не праведзеныя інструктажы па пажарнай бяспецы; адсутнічае журнал рэгістрацыі супрацьпажарных інструктажоў; адсутнічае стэнд з інфармацыяй аб пажарнай бяспецы і бяспецы жыццядзейнасці.

Пры правядзенні праверкі **ТАА "ГлобалМіксСтрой"** выяўлена, што:

асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму; не зроблены замер супраціўлення ізаляцыі правадоў і кабеляў.

Пры правядзенні праверкі **ІП Мушката В.В.** выяўлена, што:

адсутнічае дагавор са спецыялізаванай арганізацыяй на абслугоўванне аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі ў будынках павільёнаў; асоба, адказная за пажарную бяспеку, не прайшла падрыхтоўку па праграме пажарна-тэхнічнага мінімуму.

З лепшага боку можна вылучыць ПГУП "Арбузік", ІП Ліпчыка В.Л. і ІП Захарчонак М.С., пры праверцы якіх выяўленыя парушэнні нормаў і правілаў пажарнай бяспекі былі ліквідаваны ў ходзе праверкі.

Таксама было праведзена сем кантрольных праверак: КРСУП "Глыбоцкая ПМК" (дырэктар Жук В.К.), КУСП "Стрынадкі" (дырэктар Стэфановіч В.У.), СУП "Ломашы-Агра" (дырэктар Навіцкі А.В.), ДУА "Глыбоцкая дзіцячая мастацкая школа імя Язэпа Драздовіча" (дырэктар Балабуева Ж.В.), Глыбоцкае КУМП "Глыбоцкая ПМК меліявадгас" (дырэктар Танканог Э.Л., філіял "Каралі" ААТ "Глыбоцкі мясакамбінат" (дырэктар Піскуновіч М.Л.) і ДУА "Шунеўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна" (дырэктар Сташкевіч Т.Г.), якія паказалі, што кіраўніцтвам аб'ектаў раней атрыманыя прадпісанні выконваюцца, але не ў поўным аб'ёме.

Па выніках праверак кіраўнікі дадзеных суб'ектаў прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, за выключэннем дырэктара ДУА "Шунеўская ДС-СШ Глыбоцкага раёна", па выніках праверкі якога ўручана даведка.

*Інспекцыя ІНіП Глыбоцкага РАНС*

